**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч

**П А Д А Р О Ж Ж А  П А  З Я М Л І**
**М Я Д З Е Л Ь С К А Й**

Рэдактар - *Ніна Субач*

Вёрстка *Ігар  Пракаповіч*

Наклад 20 асобнікаў

Пастаўская раённая арганізацыя
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

**Ігар Пракаповіч**

# ПАДАРОЖЖА ПА ЗЯМЛІ МЯДЗЕЛЬСКАЙ

Пастаўская раённая арганізацыя
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

**Пракаповіч І.,**
Падарожжа па зямлі Мядзельскай / Ігар Пракаповіч. - Паставы, ТБМ імя Ф. Скарыны, 2015. - 24 с.

У выданні распавядаецца пра адзін з цікавейшых і прыгажэйшых рэгіёнаў Беларусі - Мядзельшчыну. Нарысы напісаны пад уражаннем чатырох паездак па азёрным краі, якія здзейснілі сябры Пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў жніўні-верасні 2015 года.

Выданне будзе карыснае ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Бацькаўшчыны.



ЗМЕСТ

Валадкевіч і Святланай Норка. Спадарыня Людміла ашчадна збірае і захоўвае матэрыялы па гісторыі, культуры і вядомых жыхарах Занарачы і ваколіц, стварыла багатую камп”ютарную базу інфармацыі. Асабліва шмат звестак і фотаздымкаў звязана з падзеямі Першай сусветнай вайны ў тутэйшай мясцовасці. Ёсць шэраг цікавых матэрыялаў пра вёску Карабаны, якія перадаў у бібліятэку яе ўраджэнец, былы старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь Зянон Ломаць. Дарэчы, па ініцыятыве гэтага чалавека пастаўлены і асвечаны крыж-абярог на ўездзе ў вёску, зладжана свята гэтага паселішча, адноўлена і асвечана некалькі крыніц… І з’явілася нечаканая думка: а каб кожны былы начальнік, ды і не толькі былы, ды і не начальнік, а проста – жыхар Беларусі, ачысціў і ўладкаваў хаця б адну крыніцу… Наша зямля стала б краінай чыстых крыніц. І пілі б мы чыстую ваду, і мелі б мы светлыя думкі, і будавалі б мы прыгожую, заможную, шчырую і шчаслівую Беларусь…

З такімі ўзнёслымі думкамі даехалі мы да нацыянальнага дзіцячага аздараўленчага лагера “Зубраня”. Раней даводзілася тут бываць неаднаразова: удзельнічаў у семінарах, выступаў перад школьнікамі, прывозіў дзяцей на адпачынак. І заўсёды захапляўся узроўнем арганізацыі і зладжанасцю работы калектыва гэтай установы. Але адна недарэчнасць заўсёды кідалася ў вочы і нараджала “нехарошыя” думкі пра мутантаў. І выклікае такую рэакцыю вялікі надпіс на ўездзе ў лагер – “ЗУБРОНАК”. Што гэта за звер такі? Па-беларуску маленькага зубра называюць “зубраня” або “зубранё”, таксама як і лісяня, аляня, шчанё. Па-руску гэтага звера завуць “зубрёнок”. А тут - “зубронак”! І ў гэтай форме назва множыцца ў перыядычных выданнях, дакументах, кніжных публікацыях. І потым хтосьці скажа, што гэта – літаратурная норма, і мутацыя будзе ўведзена ў закон.

Адмаўляючыся ад роднай беларускай мовы, ад родных слоў, мы выклікаем мутацыю свядомасці і псіхікі, што, урэшце, разбурае душу. А гэта небяспечна. І балюча. Для народа, для краіны, для кожнага асобнага жыхара…





## ПА ЗЯМЛІ КРЫВІЧОЎ

14 жніўня 2015 года група краязнаўцаў і сяброў Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны здзейсніла аўтавандроўку па цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй частках Мядзельскага раёна. Мэтамі паездкі былі сустрэчы з цікавымі людзьмі, наведванне школ, музеяў, храмаў і іншых мясцовых устаноў, збор краязнаўчых матэрыялаў.

Першым населеным пунктам на нашым шляху была невялічкая вёска Шкленікава – адно са старэйшых паселішчаў Мядзельшчыны, цэнтр былой Скленікаўскай воласці. У яе ваколіцах ёсць шэраг цікавых прыродных і гістарычных аб’ектаў: азярцо пры дарозе Сваткі-Мядзел, якое, як лічаць некаторыя даследчыкі, мае метэарытнае паходжанне; вялікая колькасць валуноў, сярод якіх вылучаецца Чортаў камень (больш 4 метраў даўжыні);  мясцовыя могілкі, на якіх захавалася многа даўніх пахаванняў, пра якія сведчаць заімшэлыя камяні; помнік загінуўшым землякам і падмурак пачатковай школы, у якой вучыўся Максім Танк. У вёсцы нас чакала сустрэча з народным майстрам, разьбяром па дрэве, Міхасём Чарняўскім, які займаецца вырабам сувенірных кубкаў, дэкаратыўных рамак для люстэркаў і карцін, іншых цікавых рэчаў з драўніны. Ён, філолаг па адукацыі, пакрысе збірае матэрыялы пра родную вёску і яе ваколіцы.

Наступны пункт паездкі – аграгарадок Сваткі, дзе па папярэдняй дамове нас ужо чакалі ў мясцовай школе. Сама навучальная ўстанова пакінула вельмі прыемнае ўражанне сваёй дагледжанасцю і чысцінёй, але найбольш уразілі дзве камеры знешняга назірання, чаго не маюць многія гарадскія школы, і музей Максіма Танка. У Сватках наш славуты паэт вучыўся, таму варта выказаць словы глыбокай павагі вучням і педагагічнаму калектыву, якія сабралі матэрыялы і аздобілі музейныя экспазіцыі. Увагу прыцягваюць тэматычныя

раздзелы "Літаратурная карта Мядзельскага раёна", "Радавод Максіма Танка", "Сялянская хата", кампазіцыя па кнігах паэта. Па словах настаўнікаў, у Сватках жыве шмат творчых людзей, сярод якіх выдзяляюцца "майстар на ўсе рукі" Ірына Чарапович і былы настаўнік гісторыі, а цяпер майстар-каваль, удзельнік гістарычных рэканструкцый, Мікалай Малько. Адметным аб'ектам аграгарадка з'яўляецца мураваная брама і некалькі помнікаў на месцы былой мясцовай царквы.

Наступны прыпынак – вёска Гарадзішча. Назва дакладна адлюстроўвае яе галоўную асаблівасць: каля паселішча адметна ўзвышаецца старажытнае гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі і банцараўскай культуры, якое грунтоўна вывучаў археолаг А. Мітрафанаў. На вясковых могілках пахаваны шчыры беларускі патрыёт, настаўнік Мікола Пашкевіч. Ён выступаў у перыёдыцы з вершамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі, кіраваў літаратурным аб'яднаннем пры газеце «Нарачанская зара», быў аўтарам першай на Беларусі кніжкі «З вопыту работы літаратурнага гуртка» (1968), у пасяджэннях якога прымалі ўдзел М.Танк, Я.Брыль, В.Быкаў, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, Р. Барадулін і іншыя. Памяці М. Пашкевіча В. Быкаў прысвяціў аповесць «Абеліск», А. Лойка - верш «Каліны», мастак А. Пупко - карціну «Памяць». На помніку – словы Максіма Багдановіча "Светлы след будзе вечна жывы".

Пасля Гарадзішча група зрабіла невялікі прыпынак каля вёскі Конікі, дзе агледзела даўнія мясцовыя могілкі, якія знаходзяцца ў лесе. На іх пахаваны цэлыя роды Пуняў, Клімовічаў, Падбярэзскіх, Рапановічаў. Дарэчы, з роду апошніх паходзіць ураджэнец суседняй вёскі Холма, шчыры руплівец на ніве беларушчыны, мовазнавец, пісьменнік, педагог Яўген Рапановіч. Галоўнай справай яго жыцця стала ўкладанне шасцітомнага "Слоўніка назваў населеных пунктаў" усіх абласцей Беларусі, які не страціў каштоўнасці і да сённяшняга дня.

Наступным пунктам падарожжа была вёска Выгалавічы, якую наведваў калісьці ў дзяцінстве і аб якой у памяці



буклеты варта было б падрыхтаваць. Вось такіх творчых людзей, якія жывуць далёка ад сталічнай багемы ў невялікіх паселішчах, проста неабходна падтрымліваць.

Пра гэта падумалася і ў час наведвання вёскі Старынкі, дзе цяпер жыве ў бацькоўскай хаце спявак, былы саліст Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Уладзімір Каўрус. Гэты таленавіты аптымістычны чалавек не толькі расказаў нам сваю цікавую біяграфію, паказаў альбомы з фотаздымкамі, але і праспяваў пад гармонік некалькі песень, прачытаў свае вершы, якіх у яго, як аказалася, напісана многа. Але не друкаваліся. Таксама, як і ў яго сябрука, жыхара суседняй вёскі Русакі, Аляксея Капцюга. І ён прачытаў нам некалькі сваіх вершаў, якія запомніліся народнасцю, жартоўнай інтанацыяй і даволі высокай літаратурнай культурай. У размове Аляксей паведаміў, што піша ў асноўным прозу і твораў у яго "як у Льва Талстога". Але не друкаваліся…

Гэтыя нечаканыя сустрэчы са сціплымі творцамі, якія жывуць у невялікіх "шчарбатых" вёсках, дзе на адну жывую хату даводзіцца па некалькі закінутых, пацвердзілі высокі Дух і высокую духоўнасць нашага народа. Міжволі параўноўваючы скокі і, як казаў адзін мой сябра, "выраблянне" дзеячаў беларускай псеўдакультуры на экранах тэлебачання з творчасцю мясцовых самадзейных мастакоў, майстроў, пісьменнікаў, спевакоў, адчуваеш, што намнога прыемней мець стасункі з Аляксеем, Уладзімірам, Нінай, Надзеяй, жанчынамі з "Вузлянкі", чымсьці з тусоўшчыкамі сталічнай багемы, бо ў тутэйшых творцаў, хай сабе, часам, і не хапае прафесіяналізму, але затое ёсць шчырасць, захопленасць жыццём і глыбокія беларускія карані…

Далей шлях пралягаў па паўднёвым ўзбярэжжы "беларускага мора" – Нарачы. Гэта мясцовасць у часы Першай сусветнай вайны была арэнай крывавых баёў падчас Нарацкай аперацыі. Сведкі той трагедыі – брацкія магілы рускіх салдат каля ракі Нарачанка і ў Чарэмшыцах, германскія ДАКі каля Занарачы. У гэтым аграгарадку нас чакала цікавая сустрэча з супрацоўнікамі мясцовай бібліятэкі Людмілай

вірыла кіпучае жыццё: тут меліся школа, бібліятэка, радыёвузел, аддзяленне сувязі, клуб, магазін, царква, млын, электрастанцыя, рамонтныя майстэрні, лясніцтва, Дом фальклору, дзіцячы садок, ФАП, сядзіба калгаса імя Леніна (раней – Сталіна). А яшчэ дзейнічаў народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Вузлянка", які быў шырока вядомы ў Беларусі, бо неаднаразова ўдзельнічаў у тэлевізійных і радыёперадачах.

Але прамінулі залатыя часы. Школы ўжо няма, як няма і музея, царквы, млына, электрастанцыі ды і шмат чаго іншага. Рэзка скарацілася колькасць жыхароў. Добра, што хоць школьны будынак не замеў такога лёсу, як у некаторых іншых вёсках, а быў адрамантаваны і абсталяваны пад сацыяльны прытулак для нямоглых. Частка музейных экспанатаў апынулася ў Мядзельскім музеі Народнай славы, штосьці засталося ў клубе-бібліятэцы, рэшта ж невядома дзе падзелася. А ансамбль "Вузлянка" яшчэ жыве! Праўда, у ім не сорак чалавек, як раней, а ўсяго каля дзесяці, але жанчыны, у асноўным пенсіянеркі, збіраюцца на рэпетыцыі, спяваюць аўтэнтычныя песні, і атрымліваецца гэта ў іх проста выдатна! Мы мелі магчымасць упэўніцца ў гэтым, наведаўшы клуб і пабачыўшы падрыхтоўку ансамбля да ўдзелу ў свяце "Слуцкія паясы", куды іх запрасілі. На спробу даведацца, ці зроблены запісы песень на дысках і відэа, атрымалі адказ, што быццам бы дзесьці недзе штосьці ёсць, але невядома дзе…

У Вузле мелі цікавыя сустрэчы з дзьвума адметнымі жанчынамі. Адна з іх, Надзея Мішчанка, былы дырэктар школы, не толькі расказала нам пра падзеі мясцовай гісторыі, але і паказала высокамастацкія свае і матуліны вышыванкі. Другая, Ніна Гануш, мясцовая самадзейная мастачка, запрасіла нас на экскурсію ў сваю невялічкую майстэрню, дзе мы змаглі пабачыць багатую выставу карцін гэтай неардынарнай асобы. Творы Н. Гануш, па нашым меркаванні, вартыя таго, каб дэманстравацца на выставах у музеях, бібліятэках і іншых установах культуры. Але большасць карцін пакуль што не мае рамак, інфармацыйных шыльдачак, ды і



засталіся гразь на вуліцах ды паваленыя платы. Цяпер, пасля дрогкай і пыльнай жвіроўкі ад Конікаў, паселішча прыемна ўразіла: чысціня, дагледжанасць і новы асфальт на ўсіх вуліцах. Толькі на выездзе ў бок Княгініна дарога шматкроць леплена-пералеплена. Дарэчы, каля яе яшчэ захаваўся сімвалічны знак з выявай пеўня. Гэта нездарма: у вёсцы яшчэ нядаўна дзейнічала птушкафабрыка, якая "грымела" на ўвесь рэгіён, купляць курэй сюды прыязджалі з усіх суседніх раёнаў. Аднак цяпер "грому" няма, прадпрыемства зачынена, шмат людзей засталося без работы. Гэта выклікала ланцужковую рэакцыю: спыніла дзейнасць школа, цяпер, як кажуць мясцовыя людзі, зачыняецца ФАП. Міжволі ўзнікае пытанне: можа гэта такая палітыка? Спачатку разбураецца эканамічная аснова беларускіх мястэчак і вёсак, затым "перакрываецца кісларод" нацыянальным школам, дзіцячым садкам, бібліятэкам, установам культуры. Мясцовыя жыхары падаюцца ў свет у пошуках лепшай долі, а на іх месца прыязджаюць маргіналізаваныя "перакаці-поле" ці дачнікі, якія адгароджваюцца ад суседзяў высокімі платамі і бавяць час у сваёй "зоне", далёкія ад тутэйшых традыцый, мовы, культуры. А "кінутае" прадпрыемства за бесцань выкупляе небеларускі інвестар і працэс далейшай дэнацыяналізацыі краю ідзе ўжо сам па сабе…

Наступны населены пункт на нашым шляху – аграгарадок Княгінін. Дарэчы, на Мядзельшчыне гэта мястэчка раней называлі мякчэй і распеўней "Княгініна", як і "Мядзела", "Свіра", "Нароча". У Максіма Танка ёсць верш "Станцыя Княгініна". Чамусьці ў афіцыйную назву ўвялі кальку з рускай або польскай моў, а не з мясцовага вымаўлення. Здаецца, дробязь, адна літарка, а мова бяднее…

У Княгінінскай школе нас чакала ветлівая і прыязная дырэктарка, якая ўжо папярэдне дамовілася з былой настаўніцай – найбольш дасведчанай жыхаркай мястэчка – аб магчымай сустрэчы з намі. У школе тым часам ішоў рамонт – дабудоўваўся харчблок. Варта адзначыць, што некалькі гадоў таму школу меліся зачыніць, бо яна пабудавана ў 1955

годзе і не адпавядае сучасным патрабаванням. Між іншым, узведзена яна на падмурку былога сядзібнага дома Козел-Паклеўскіх, які ў вайну спалілі партызаны. Школу, аднак, не зачынілі, бо мясцовыя жыхары згуртаваліся і супольнымі намаганнямі яе адстаялі. Будынак стаіць ў прыгожым месцы на ўзгорку, перад ім – стаў і рэшткі былога парка.

Наступная сустрэча адбылася на хутары Будзькаў. Каля яго знаходзіцца помнік на магіле паўстанцаў 1863 года, які даглядае гаспадыня гэтай сядзібы Ірына Будзька (Кляймяціч). Яе бацька пры Польшчы быў у Амерыцы, зарабіў грошы і купіў тут зямлю. Побач купіў зямлю Герасімовіч. Паставілі гаспадары тут хаты, якія на сённяшні дзень ужо можна ўспрымаць як помнікі, якія перажылі шматлікія калектывізацыі, меліярацыі, рэарганізацыі і іншыя “-ацыі”, але захавалі сваю адметнасць. Спадарыня Ірына аказалася шчырай і адкрытай жанчынай, з якой лёгка і цікава было весці гутарку. Яна паказала багаты архіў сваіх фотаздымкаў, сярод якіх ёсць карткі міжваеннага і пасляваеннага часу, партрэты “амерыканцаў” – нашых хлопцаў, якія працавалі ў Амерыцы. А крыж на магіле паўстанцаў варта было б занесці ў рэестр нацыянальнай спадчыны і ўзяць пад ахову дзяржавы.

Зрабіўшы фотаздымкі княгінінскай царквы і помніка на магіле 2500 рускіх салдат, якія загінулі на фронце I сусветнай вайны, мы накіраваліся ў Крывічы. Праехалі каля адметнага прадпрыемства – газанапаўняльнай станцыі. Па словах мясцовых жыхароў, станцыя перажывае часы заняпаду і яе рыхтуецца выкупіць расійскі “інвестар”. Што ж, месца для бізнесу амаль ідэальнае: чыгунка, шаша, гатовая інфраструктура…

У Крывічах удзельнікі вандроўкі агледзелі стары млын на рацэ Наква; могілкі з пахаваннямі мясцовых жыхароў, роду Козел-Паклеўскіх і мемарыялам польскім жаўнерам, якія загінулі ў баях супраць бальшавікоў у 1920 годзе; касцёл і кляштар трынітарыяў, дзе зараз вядуцца рэстаўрацыйныя работы; царкву; яўрэйскія могілкі; былую сядзібу ўласнікаў мястэчка Ходзькаў-Швайкоўскіх. Адбылася цікавыя сустрэчы





## ПА ПАЎДНЁВЫХ ВАКОЛІЦАХ НАРАЧЫ

Чарговую паездку сябры Пастаўскай арганізацыі таварыства беларускай мовы зладзілі 17 верасня ў паўднёвую частку Мядзельскага раёна. Шлях пралягаў праз Брусы, Вузлу, Старынкі, Чарэмшыцы, Занарач, “Зубраня”. У Брусах мы агледзілі мемарыял на месцы спаленых фашыстамі мясцовых жыхароў і брацкую магілу рускіх салдат, якія загінулі ў 1916 годзе падчас Нарацкай аперацыі Першай сусветнай вайны.

За вёскай у лесе, на месцы былога хутара, зараз раскінуліся плантацыі лесагадавальніка Нацыянальнага парка “Нарачанскі”. Мясцовы жыхар, якога мы там сустрэлі, аказаўся чалавекам кантактным і адкрытым. У размове ён распавёў пра тутэйшыя цікавосткі, адметныя мясціны і падзеі, узгадаў некалькі гісторый ваеннага часу, якія адбыліся з яго роднымі. Як ён казаў, у час акупацыі жыхары вёсак больш баяліся партызанаў, а не немцаў. Апошнія прасілі дазволу ўзяць або купіць прадукты, расплочваючыся за іх маркамі. Партызаны ж прыходзілі ўночы і забіралі тое, што хацелі. Быў выпадак, калі “лясныя мсціўцы” аднойчы зайшлі ў хлеў, са стрэльбы з глушыцелем застрэлілі пяць парсюкоў, забралі ў суседняга гаспадара каня з калёсамі і павезлі “здабычу” ў лес. А яшчэ неяк партызаны прыйшлі ў вёску і ў аднаго селяніна пачалі патрабаваць каня, але той пачаў гаварыць, што каня няма (быў схаваны). Тады “змагары” накінулі вяроўкі на рогі дзвюх кароў, што стаялі ў дварышчы, і павялі з сабой… Што ж, былі і такія партызаны.

Далейшы шлях ляжаў у вёску Лужы, якую ў час блакады спалілі фашысты. На яе папялішчы некаторы час дзейнічаў партызанскі аэрадром, на які з-за лініі фронту прыляталі самалёты. Пра гэта сведчыць сціплы помнік і надпіс на ім.

Наступны прыпынак у нашай вандроўцы быў у вёсцы Вузла. У 60-70-я гады гэта было бойкае паселішча, у якім

ў паселішчы знаходзіцца асвечаная крыніца. Сапраўды, натуральны выхад падземных вод, уладкаваны і дагледжаны кімсьці, наталіў нашу смагу чысцінёй і свежасцю. І міжволі падумалася пра тых людзей, якія чысцілі крыніцы, будавалі сядзібы і хаты, узводзілі храмы, складалі вершы і легенды, спявалі песні… Дзякуй ім, бо без іх працы, без іх творчасці не было б нашага народу і мы б не ведалі, якой павінна быць наша нацыя…



ў мясцовай школе, бібліятэцы, у царкве і на вуліцах з мясцовымі жыхарамі. Так, у школе настаўніца гісторыі Ала Ермаковіч расказала пра некаторыя адметнасці былога мястэчка, пазнаёміла з экспанатамі невялікага краязнаўчага куточка, у якім маецца шэраг цікавых рэчаў, вартых увагі даследчыкаў нашай даўніны. Па яе словах, вучні і настаўнікі вядуць пошукавую работу ў асноўным па тэме II сусветнай вайны, нядаўна выявілі месца, дзе фашысты расстралялі сям'ю мясцовага рабіна.

Шмат тэматычных папак пра Крывічы сабрана ў пасялковай бібліятэцы, загадчыца якой, Ала Гурло, захоплена і эмацыянальна расказвала пра людзей, падзеі і адметныя мясціны тутэйшай мясцовасці. І ў школе, і ў бібліятэцы мы пакінулі буклеты і матэрыялы з планам збору матэрыялаў і напісання кніг пра паселішчы. Крывічы вартыя таго, каб пра іх хтосьці падрыхтаваў грунтоўнае выданне.

Пра гісторыю царквы распавёў нам яе настаяцель айцец Мікалай.

Апошняя сустрэча гэтага дня адбылася на месцы былой сядзібы Ходзькаў-Швайкоўскіх – колішніх уласнікаў мястэчка. Ад былога сядзібна-паркавага ансамбля засталася частка перарobленага жылога будынка, паўразбураны склеп і некалькі старых дрэў. Цікавай інфармацыяй падзяліўся з намі тутэйшы жыхар Анатоль Адамовіч.

Падчас паездкі было шмат цікавых сустрэч і знаёмстваў, зроблена вялікая колькасць фотаздымкаў, сабраны багаты краязнаўчы матэрыял.

## ПА ЎСХОДНЯЙ МЯДЗЕЛЬШЧЫНЕ

17 жніўня група сяброў Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і мясцовых краязнаўцаў здзейсніла аўтавандроўку па ўсходняй частцы Мядзельскага раёна. Шлях пралягаў пераважна праз невялічкія вёсачкі ад Паставаў да Будслава.

У Нагаўках адразу кінуўся на вочы будынак былой крамы з шыльдай "Магазин", які ўжо зарос кустоўем і травой. У самой вёсцы дагледжаныя сядзібы суседнічаюць з хатамі, у якіх колькі год ужо, напэўна, ніхто не жыве, і яны патанаюць у "моры" травы.

Прамінуўшы за вёскай вялікае кукурузнае поле і пераехаўшы мост праз абмялеўшую рачулку Лаўрыху, якая ў адрозненні ад большасці вадатокаў Мядзельшчыны нясе ваду не ў Вілію, а ў Дзісну, патрапілі ў Слабодку. Перад паселішчам – указальнік Рамашкі. Гэта сумны прыклад неахайнага стаўлення да мясцовых назваў. За польскім часам вёска называлася Хорбы ("Horby"), адлюстроўваючы, верагодна, асаблівасці тутэйшай узгорыстай мясцовасці. За савецкім часам яна пачала гучаць і запісвацца як Гарбы. Побач з ёй знаходзіліся два хутары Рымшова. У 60-я гады будаўнікам сацыялізму найменне падалося немілагучным і яго замянілі на Рамашкі (чаму хаця б не Рамонкі?). Таксама і на Пастаўшчыне тым жа часам з'явілася вёскі "Восточные" і "Радуга". Падобна на тое, што гэта аднаго аўтара "творенье".

У Слабодцы захавалася некалькі хат старой пабудовы і планіроўкі, сцены якіх стаяць на мяжы дарогі.

У невялікай вёсачцы Янушоўка, дзе раней быў фальварак, нашу групу нахабна атакавалі козы, але шкоды не ўчынілі, а толькі папужалі сваімі рагамі. Ад былога фальварка нічога не засталося, а мясцовыя жыхары паведамілі, што тут жыў "амерыканец" і меў некалькі будынкаў, якія згарэлі. Засталіся толькі падмуркі, склеп.



з'яўляецца дырэктар школы А. Марчанка. Выдатныя работы! Шкада толькі, што сюжэты ўзяты з рускіх народных казак. А што наш фальклор? Няўжо слабая крыніца для творчасці?... Здаецца, дробязь, але з такіх дробязей складаецца сучасная беларуская культура.

Наступная сустрэча адбылася ў мясцовай бібліятэцы. Яе гаспадыня, Данута Саковіч, пазнаёміла нас з матэрыяламі пра Свір, пра народных майстроў і знакамітых людзей Свірскага краю. Большую частку інфармацыі складаюць публікацыі ўжо вядомага нам І. Драўніцкага, але сустрэлася і новае імя – Янка Тышко. Гэты краязнавец, жыхар Віцебска, ураджэнец Свіршчыны, надрукаваў у перыядычных выданнях некалькі грунтоўных артыкулаў пра родны край.

Пасля Свіры мы спадзяваліся патрапіць у былы сядзібна-паркавы ансамбль роду Ахраноўскіх у суседняй вёсцы Лушчыкі, але гэта нам не ўдалося. Пільны ахоўнік не дазволіў прайсці на тэрыторыю, спаслаўшыся на тое, што мы можам патрывожыць ідылічнае жыццё тутэйшых жыхароў. А кантынгент тут своеасаблівы – людзі з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Так што мы туды не патрапілі. Мо яно і добра – там зусім іншы свет, у якім свае законы, сваё ўспрыманне жыцця. Толькі пытанне – хто шчаслівейшы, яны ці мы – застаецца без адказу.

Пасля Лушчыкаў мы наведалі Болькава, Засвір, Шэметава. Цудоўныя мясціны з выдатнымі помнікамі і маляўнічымі краявідамі! Але... Ніводнага чалавека мы ў тых мясцінах не сустрэлі. Не было з кім пагаварыць, распытацца. У Болькаве паступова зарастае кустоўем закінуты бровар, у Засвіры ў цішыні і спакоі жыве сваёй адзінотай велічны касцёл, каля якога – рэшткі кляштара, капліца, брама, могілкі германскіх салдат I сусветнай вайны. У Шэметаве – касцёл Дзевы Марыі, чырвоныя сцены былой сядзібы Скірмунтаў, з якімі жорстка расправіліся бальшавікі і партызаны, ды вялікія ставы рыбагадавальніка.

Па дарозе на Занарач звярнулі ў вёску Карабаны. Завабіла нас туды беларускамоўная шыльда-ўказальнік пра тое, што

тутэйшыя і парк, і пабудовы прыемна ўразілі сваёй дагледжанасцю і ўладкаванасцю. Тое, што комплекс знаходзіцца ў такім прэзентабельным стане, вялікая заслуга мясцовых грамадскіх арганізацый "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю" (кіраўнік – А. Вайцяховіч) і фонду падтрымкі прадпрымальніцтва "Камарова" (кіраўнік – Э. Вайцяховіч). Дарэчы, офіс фонду знаходзіцца ў еўрапейскага выгляду будынку з сонечнымі батарэямі на даху – былым панскім свінарніку. Непадалёку размешчана і міні-ГЭС, якая выпрацоўвае ток для вулічных ліхтароў.

З Камарова мы накіраваліся ў гарадскі пасёлак Свір. Паводле легенды, гэта даўняе мястэчка заснаваў Нальшчанскі князь Даўмонт, а валодаў ім доўгі час заможны род князёў Свірскіх. Бываў тут са сваім войскам кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый, калі выпраўляўся адваёўваць у маскавітаў Полацк. У цэнтры былога мястэчка ўзвышаецца Мікалаеўскі касцёл, які гэтым летам не фатагенічны, бо знаходзіцца ў рыштаваннях, але службы ў ім праводзяцца.

Мы ж накіраваліся ў мясцовую школу, дзе мелі папярэднюю дамову на сустрэчу і агляд краязнаўчага музея. Крыху не пашанцавала: у гэты дзень у Мядзелі праводзілася традыцыйная жнівеньская нарада і таму свірскія настаўнікі паехалі ў райцэнтр. Нас сустрэлі на ўваходзе піянер і піянерка – дзве сімвалічныя фігуры савецкай школы, а таксама група тэхнічных работнікаў, якія рыхтавалі школу да новага навучальнага года. Сакратарка правяла нас у краязнаўчы музей. Увогуле, гістарычныя экспазіцыі нядрэнныя, ёсць шэраг вельмі цікавых экспанатаў, але агульнае афармленне, відавочна, не мянялася з часоў СССР. А вось другі музейчык, невялікі этнаграфічны куточак, спадабаўся больш. Але зноў жа, подпісы прылад працы і вырабы мясцовых майстроў чамусьці падаюцца па-руску. Хіба ж яны так называліся на гэтым культурна-гістарычным беларуска-польска-літоўскім памежжы?

У фае школы мы звярнулі ўвагу на цікавыя гліняныя карціны-кампазіцыі, аўтаркай якіх, як высветлілася,



Наступная вёска Канстанцінава яшчэ захоўвае "стомленае рэха" былога росквіту 60-70-х гадоў. На "плошчы" стаяць зачыненыя магазін, школа і "мёртвая" сталовая. Жыве і квітнее пакуль што дзіцячы садок. Ён дагледжаны і ў ім выхоўваецца (адна!) дзяўчынка, якую возяць сюды з суседняй Слабады.

Гэта Слабада – аграгарадок, буйнейшы населены пункт паўночна-ўсходняй Мядзельшчыны. Ёсць сельсавет, магазін, царква Аляксандра Неўскага, якая вымуравана з бутавага каменя, бібліятэка, клуб, школа. Створаны нядрэнныя ўмовы для жыцця і адпачынку, але паселішча паступова марнее: моладзь імкліва "вылятае ў свет". У школе, якую мы наведалі, займаецца ўсяго 47 вучняў, і, як казалі мясцовыя жыхары, у бліжэйшай перспектыве яе плануюць закрыць. Зачынілі б, пэўна, і сёлета, але ў будынку будзе размешчаны выбарчы ўчастак. Таму пакуль што пакінулі. А школа вельмі спадабалася: двухпавярховы будынак са светлымі класамі, новай сантэхнікай, свежапафарбаванай падлогай, абсталяванай сталовай-актавай залай. Нашым гідам па школе была настаўніца фізікі і інфарматыкі Іна Іванаўна, якая паказала кабінеты і класы, адказала на ўсе пытанні, якія нас цікавілі. Варта адзначыць добрае валоданне педагогам беларускай мовай. Дарэчы, гэта адметная рыса большасці настаўнікаў вясковых школ Мядзельшчыны, ва ўсялякім разе тых, з якімі мы сустракаліся.

Слабадская школа носіць імя паэта Адама Гурыновіча, і ў адным з яе пакояў ёсць музей, прысвечаны гэтаму знакамітаму земляку.

Прыемныя ўражанні пакінула і наведванне мясцовай бібліятэкі, загадчыца якой, Алена Сідаровіч, аказалася чалавекам дасціпным і вясёлым. Яна расказала пра мерапрыемствы, якія ладзяцца ў бібліятэцы і ў клубе, паказала папкі, у якіх захоўваюцца матэрыялы пра родны край. Як аказалася, жанчына яшчэ і добрая пявунья – удзельніца невялікага ансамбля, які выступае на розных урачыстасцях. Выконваюць яны пераважна расійскамоўныя

песні кшталту расцяраеўскай “Песні пра камбайнёраў”. Вялі размову пра напісанне кнігі пра Слабаду. Спадарыня Алена падказала, што ў Канстанцінаве жыве зацікаўлены чалавек Міхаіл Крывенькі, які, на яе думку, мог бы ўзяцца за гэту справу. На жаль, часу вяртацца назад у нас не было, таму сустрэчу з гэтым чалавекам адклалі на пазнейшы час.

Аграгарадок выдаўся пустым, бо ні людзей на вуліцах, ні аўтамабільнага руху амаль не было. Толькі тры мужыкі на прыплошчавай сажалцы лавілі рыбу і пілі віно.

Далей шлях пралягаў каля вёсак Гулі, Навасёлкі, Баяры на Старыя Габы. На месцы былой Жосны, якая раней з’яўлялася цэнтрам воласці, засталіся толькі паўразбураныя муры і рэшткі сцяны ад капліцы, што ўзвышалася на высокім гарадзішчы.

У Старагабскай школе нас чакаў настаўнік гісторыі, вядомы краязнавец Мядзельшчыны, загадчык школьнага музея Уладзімір Серадзінскі. Але першымі пры падыходзе да школы нас сустрэлі ўжо амаль знакамітыя старагабскія каты. Яны пакуль што не такія вядомыя ў свеце як Чэшырскі кот, або кот Матроскін, але маюць усе шанцы патрапіць у кацінную эліту. Кажуць, што ў таго, хто іх пагладзіць, збудуцца ўсе запаветныя мары. Асабліва любяць гэтых коцікаў малыя дзеці. Але і мы іх таксама пагладзілі. А мо і праўда, усе нашы мары збудуцца?

У. Серадзінскі, эрудзіраваны і дасведчаны знаўца мясцовай гісторыі, правёў цікавую экскурсію па школьным музеі,  у якім захоўваюцца рэдкія экспанаты, вартыя экспазіцый музеяў вялікіх гарадоў. Тут ёсць археалагічныя знаходкі, рэчы часоў I і II сусветных войн, рэчы і дакументы з гісторыі школы, вырабы народных майстроў.

Потым спадар Уладзімір прапанаваў наведацца ў госці да вядомай мясцовай майстрыхі Галіны Старавойтавай. Пайшлі і не пашкадавалі. Пакоі гаспадыні можна пераўтвараць у выставу: тут вышываныя ручнікі ўпрыгожваюць абразы і люстэркі, на стале – вышыты настольнік, на канапе і сцяне – вышытыя дываны, на іншых



II годнасць Генеральнага Вікарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, намесніка кардынала і правы біскупа, тут жа ён адзначыў і свой 90-гадовы юбілей. Памёр у 2004 годзе, паводле яго жадання пахаваны на цвінтары Канстанцінаўскага касцёла.

На ўскраіне вёскі – вялікія могілкі з брамамі XIX стагоддзя і мноствам старых і новых пахаванняў. Ахоўвае спачын былых жыхароў невялікая капліца.

У наступным пункце нашай вандроўкі – Камарове – мы адразу накіраваліся да хаты вядомага краязнаўца, педагога, аўтара шматлікіх кніг пра падзеі мясцовай гісторыі Івана Драўніцкага, з якім мелася папярэдняя дамова на сустрэчу. Насупраць яго сядзібы – былая польская Куцькаўская школа. Будынак і вакольная тэрыторыя яшчэ захоўваюць прыстойны выгляд, але бачна, што дзікая трава паступова акружае пабудовы. Зразумела, што ў стане такой нерухомай кансервацыі гэты помнік гісторыі доўга не пратрымаецца. Знойдуцца лайдакі, якія павыбіваюць вокны, паламаюць тое, што засталося. Калі ў будынку не размесціцца якая-небудзь установа - ці музей, ці грамадская арганізацыя, то і гэту былую польскую школу чакае сумны лёс.

Іван Драўніцкі, якому ўжо 83 гады, сустрэў нас прыязна і гасцінна. Энергіі і энтузіязму гэтага чалавека можна толькі пазайздросціць. Зусім нядаўна ён выдаў новую кнігу пра свайго аднакласніка па Камайскай школе, вядомага беларускага татарына, географа-энцыклапедыста, аўтара гімна беларускіх татар Якуба Якубоўскага. Гэта выданне ён падарыў нам. Падзяліўся і сваімі планамі. А іх – мора! Зараз І. Драўніцкі працуе над кнігай па гісторыі Пастаўскага педагагічнага вучылішча, якое ў пасляваенны час адыграла вялікую ролю ў падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў для Пастаўшчыны, Мядзельшчыны і суседніх раёнаў.

Пасля смачнай гарбаты, якой нас пачаставала гаспадыня, мы накіраваліся ў былы сядзібна-паркавы комплекс Старжынскіх Камарова, дзе Іван Пятровіч правёў для нас экскурсію. У адрозненні ад многіх іншых падобных ансамбляў

## ПА СВІРСКІМ КРАІ

У сваім трэцім падарожжы па Мядзельшчыне сябры Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ наведалі яе заходнія абшары – самабытны Свірскі край. Зранку церушыў дождж, віселі хмары, але паступова ў надвор'я паляпшаўся настрой, яно выцірала слёзы, і ў хуткім часе ўсміхнулася яркімі фарбамі маладога жнівеньскага дня.

У першай вёсцы, Канстанцінаве, на вочы кінуўся адметны дамок з ганкам і калонамі, верагодна, будынак былой школы, які, як і яго "калегі" ў іншых вёсках, дажывае свой век у варварстве і рабаўніцтве. Выбітыя вокны, разламаная падлога, паадбіваная шалёўка і іншыя сляды "гаспадарання" сведчаць пра сумныя перспектывы колішняга "агменю асветы". А вось мясцовы касцёл Маці Боскай зачароўвае сваёй дагледжанасцю і нейкай мілай гармоніяй са сціплымі краявідамі наваколля. Каля храма – магілы яго ўласнікаў і фундатараў, а таксама пахаванне ксяндза Люцыяна Хмялёўца і яго матулі. Гэты святар – гераічная асоба. Ён пачаў служыць у Канстанцінаве ў 1940 годзе ў 26-гадовым узросце. У час вайны малады ксёндз выратаваў ад смерці 16 чалавек – былых дэпутатаў, кіраўнікоў устаноў, работнікаў Свірскага райвыканкама, падпольшчыкаў, яўрэяў, якіх фашысты арыштавалі па даносу. Святар падпісаў з нямецкім камендантам дамову аб сваёй асабістай адказнасці за гэтых людзей і тых вызвалілі. Таксама, калі акупанты стварылі канцэнтрацыйныя лагеры для жыхароў, якіх збіраліся вывезці ў Германію, Л. Хмялёвец выкупіў у ахоўнікаў каля 70 дзяцей і вярнуў іх у сем'і да бацькоў. У пасляваенныя часы гэты высакародны святар спазнаў жорсткі ўціск і ганенні з боку савецкіх уладаў, у выніку чаго вымушаны быў у пачатку 60-х гадоў выехаць на новае месца службы ў вёску Дзераўная Стаўбцоўскага раёна. Там ён у 1989 годзе ўрачыста адзначыў паўвекавы юбілей свайго святарства, атрымаў ад Яна Паўла



рэчах – таксама штосьці адметнае, яркае. У аснове кампазіцый – кветкі і раслінныя арнаменты.

Майстрыха доўга не хацела нас адпускаць, паказваючы свой агарод, ураджай часнаку, які сёлета сабрала, пладовыя дрэвы, якія сама прышчапляла.

Вяртаючыся да школы, на галоўнай вуліцы пабачылі бюст аднаго з дзеячаў расійскай партыі бальшавікоў С.М. Кірава. Гэты мясцовы помнік заінтрыгаваў: як апынуўся Сяргей Міронавіч так далёка ад Петраграда сярод Габскіх балот? Аказваецца, проста: мясцовы калгас меў гонар насіць яго імя. Шыльды з надпісам на помнічку няма, яна ляжыць акуратна на зямлі. Падобна на тое, што яе збілі з бюста нядаўна – ніхто пакуль што не забраў яе ў сваю калекцыю. Ды і ці мае яна цяпер якую вартасць?

Каля магазіна нас спаткаў арыгінальны мясцовы жахар, які прадставіўся Чачэнам, і настойліва прапанаваў яго сфатаграфаваць, што мы і зрабілі. Узрадаваны, ён некалькі разоў ускідваў руку ў гору і выкрыкваў "Чачня і Беларусь – браты!".

Было ў планах і наведванне мясцовай царквы, але там якраз адпявалі нябожчыка і мы палічылі за лепшае накіравацца ў бок Новых Габаў.

Сумныя ўражанні засталіся пасля наведвання былой школы ў вёсцы Пузыры. Прыгожы вялікі аднапавярховы будынак на два крылы з еўравокнамі і слядамі нядаўняга рамонту, з афіцыйнай шыльдай навучальнай установы аказаўся не школай, а інтэрнатам, у якім часова пражываюць бежанцы з Луганску і жыхары Брэсцкай вобласці, якія прыехалі сюды зарабіць грошай на жніве. Як паведамілі мясцовыя жыхары, школа нядаўна згарэла, яе адбудавалі і ў хуткім часе закрылі, бо не было каго вучыць. Міжволі ўзнікла пытанне: а ці варта было марнаваць сродкі на аднаўленне будынка, калі няма вучняў? А можа гэта мы не разумеем тонкую дзяржаўную палітыку "па адраджэнні сяла"? Не з лепшымі пачуццямі і думкамі мы пакідалі Пузыры…

Далейшы шлях ляжаў праз вёскі і вёсачкі на самы ўсход

Мядзельскага раёна ў вёску Ілава. На пад'ездзе да яе ў в. Яцковічы ўбачылі яшчэ адну, ужо чацвёртую, даўно не працуючую краму. Міжволі склаўся слоган: "Мядзельшчына – край зачыненых школ і магазінаў". Але гэта з'ява адметная не толькі для Мядзельскага раёна, такое назіраецца і на Пастаўшчыне, і на Астравеччыне, і на Глыбоччыне, ды і на ўсіх паўночна-заходніх абсягах Беларусі.

Ілава сустрэла нас адметнай шыльдай і будынкам невыразнага ў сваіх архітэктурных формах Дома культуры. Уздоўж галоўнай вуліцы выцягнуўся ладны сквер, у якім мы, ведаючы традыцыі, спадзяваліся ўбачыць помнік землякам або вызваліцелям. Аднак нас чакала неспадзяванка: сярод дрэў узвышалася статуя Маці Божай Фацімскай і вялікі крыж, стаялі два рады лавак, і ўся гэта кампазіцыя ўтварала капліцу або храм пад адкрытым небам.

А побач са скверам – сапраўдныя руіны ці то недабудаванага, ці то разбуранага будынка. А паколькі гэта ўжо была тэрыторыя Ілаўскага вінзавода, то версія пра тое, што, магчыма, узарваліся бочкі з забрадзіўшым віном, падалася нам жыццяздольнай. Не вылучаць жа гіпотэзу пра тэракт ці бамбаванне.

Праз прахадную на тэрыторыю завода нас, натуральна, не пусцілі, ды мы і не імкнуліся. А вось у фірмовай краме змаглі агледзець багаты выбар пладова-ягадных напояў, якія асноўныя іх спажыўцы называюць "чарніла". Убачылі і марачнае віно. У нашай камандзе не было спецыялістаў па спіртапрадукцыі, але даводзілася неаднойчы чуць, што лепшыя гатункі вінаў Ілаўскага завода ніколькі не саступаюць па якасці, а то і пераўзыходзяць вядомыя замежныя брэнды. Тутэйшы прадукт натуральны: яблыкі, журавіны, смародзіна і іншыя дары нашых лясоў і палёў. Прыязная прадавачка вельмі хваліла «Царский погребок», «IQ», «Кальвадос», якіх на той момант не было ў продажы. Але спакусіла сімпатычнай бутэлечкай "Ариадны". Набылі, так сказаць, сувенір.

Ну, а далей была сустрэча з каталіцкай сталіцай Беларусі, яе Нацыянальным санктуарыем – Будславам. Адразу



накіраваліся ў мясцовую школу, дзе нас чакалі настаўніца рускай мовы і літаратуры, загадчыца школьнага музея Валянціна Грыбовіч, і загадчыца сельскай бібліятэкі Галіна Аксючыц. Збіраючы папярэднія звесткі пра Будслаўскую школу, мы атрымалі інфармацыю, што школьны музей у ёй знаходзіцца ў паўразбураным стане і нічога каштоўнага ў ім няма. Аднак рэчаіснаць пацвердзіла ісціну, што для таго, каб рабіць нейкія высновы, усё трэба бачыць на свае вочы.

Музей Будслаўскай школы, дзякуючы ў першую чаргу сям'і Грыбовічаў – ужо згаданай спадарыні Валянціне, яе мужу Лявону, дырэктару школы, іх сыну, настаўніку працы і кіраўніку гурткоў, дочкам-выпускніцам – выдзяляецца і багаццем экспанатаў, і змястоўнасцю, і прэзентацыйнасцю. Вялікай пашаны заслугоўваюць і настаўнікі, і ўвесь педагагічны калектыў школы за дзейнасць па захаванні і папулярызацыі нашай спадчыны. Сям'я Грыбовічаў – своеасаблівы творчы калектыў: усе яны пішуць вершы, выдаюць самадзейныя зборнікі, захапляюцца рознымі відамі народнай творчасці, а спадарыня Валянціна яшчэ ў літаратурным гуртку вучыць школьнікаў пісаць вершы і прозу.

Пасля школьнай экскурсіі нас запрасіла да сябе ў бібліятэку яе загадчыца Галіна Аксючыц. Рупнасцю гэтай неабыякавай жанчыны сабраны багаты матэрыял па гісторыі, культуры і вядомых людзях Будслава. У зборы ёсць шмат фотаздымкаў міжваеннага і пасляваеннага часу.

У зацікаўленай размове мы, здаецца, упэўнілі жанчыну ў неабходнасці напісання кнігі пра Будслаў, а для сістэматызацыі работы пакінулі распрацаваны намі план апісання вёскі.

Але толькі бібліятэкай наша сустрэча не абмежавалася. Спадарыня Галіна згадзілася быць экскурсаводам па бліжэйшых ваколіцах былога мястэчка. З ёй мы наведалі магілу беларускай патрыёткі, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, Паўліны Мядзёлкі, былую сядзібу Аскеркаў, парк 1907 года. Ну і будслаўскую святыню – касцёл Ушэсця Маці Божай, якая ў промнях заходзячага сонца выглядала яшчэ больш велічнай і ўзнёслай.